ISSN – 5172

ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К. Каліноўскі

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ – Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. Canada Post: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.. M4K 1C2

U.S. Post: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd. Highland Park, N.J. 08904

Год 11 Верасень, 1985 № 3 (39)

## ЗАПРАЎДНЫЯ ЗЛАЧЫНЦЫ

Сёлета мінула сорак гадоў ад заканчэньня Другой сусьветнай вайны. У сувязі з гэтым, і ўжо каторы раз, гаманілі й шумелі розныя пераможнікі, а ў іх ліку насамперш Масква. Згодна гістарычнай вэрсіі маскоўскіх гэбэльсаў, Расея амаль сама перамагла нянавісны й народазабойчы гітлераўскі фашызм. Дарма. Ні "бальшая" ці малая савецкая энцыкляпэдыя, ні савецкія партыйныя гісторыкі, як-бы яны ні намагаліся, гісторыі ня зьменяць. Дык прыгадаем, хто-ж із тым "гітлераўскім фашызмам" ваяваў, а хто яму памагаў.

Сорак гадоў назад Франк Барнэт (гл. В. Стывэнсон, Торонто Сан, 28.7.85), "дзякуючы прыпадковаму шчасьцю", як ён кажа, апынуўся ў ліку 69-й амэрыканскай пяхотнай дывізіі, калі тая сустрэлася над ракой Эльбай із першай савецкай украінскай арміяй. Барнэт стаўся перакладчыкам у амэрыканскай вайсковай адзінцы, што памагала Чырвонай Арміі рэпатрыяваць уцекачоў і палонных.

"Спачатку, – кажа ён, – між Расейцамі і Амэрыканцамі склаліся надзвычайныя адносіны. Расейцы былі гаманлівыя і сяброўскія; мы разам сьпявалі, дарылі воплескамі іхныя танцы, мяняліся сувэнірамі, пілі зашмат водкі й наагул цешыліся тымі слаўнымі днямі травеня, 1945 г., пасьля заканчэньня вайны ў Эўропе".

"Але вясельле (пікнік) скончылася, калі над Эльбай апусьцілася "зялезная занавеса". Рэгулярныя адзінкі Чырвонай Арміі былі адцягнутыя назад і замененыя адзьдзеламі МВД з кадрамі Манголаў, якія фактычна ствaрылі *санітарны кардон* (мяжу) між Расейцамі і Амэрыканцамі. Манголы былі ўзброеныя аўтаматамі тыпу Ал Капона, якімі яны, бязь ніякіх папярэджаньняў, абстрэльвалі птушак і раку. Мы памяркоўна трымаліся на сваім баку. Эра дружбы над Эльбай трывала коратка і, ня гледзячы на прапаганду, ніколі не аднавілася. Мангольскіх аўтаматчыкаў замяніў калючы дрот, мінныя палі й бэрлінская сьцяна."

І далей Франк Барнэт, закладчык Інфармацыйнага Цэнтру Нацыянальнай Стратэгіі падчас апошняе вайны, перасьцерагае маладое пакаленьне, што трэба зедаць факты й ня верыць хвальшу Масквы.

"Бальшыня гісторыкаў, – кажа ён, – цьвердзіць, што Другая сусьветная вайна началася 1-га верасьня, 1939 г., калі Нямеччына распачала інвазію Польшчы. Але 23-га жніveня, у Маскве, падпісаўшы ўмову пра неагрэсію між нацыстоўскай Нямеччынай і Сталінавай Расеяй, чырвоны дыктатар даў свайму супрацоўніку вольную руку для распачацьця катастрофы. Тая ўмова была тайным плянам для падзелу Эўропы."

"Саюз Гітлер-Сталін ня толькі спусьціў з прывязі сабак вайны ў Эўропе, але забясьпечыў неабходную матар'яльную падтрымку й гаручае для нямецкага лятунства над Брытаніяй, даў сілу нямецкім танкам у іх паходзе ў нізінныя краіны й Францыю. Савецкая бінзіна, гума, цынк, медзь, манганэз і збожжа плылі ў нацыстоўскую Нямеччыну на працягу дваццаці двух месяцаў вайны".

"Да сяньняшняга дня Масква абвінавачвае ЗША й Заходнюю Нямеччыну ў фашызьме. Мы ніколі не павінны забывацца, што першая хваля нацыстоўскай маланкавай вайны была ўспамаганая савецкімі даставамі. Савецкія арміі забралі Галіцыю (пра Заходнюю Беларусь Барнэт, відаць, ня чуў, – К. А.) на сямнаццаты дзень польска-нямецкае вайны, заатакаваўшы польскае войска ззаду".

"Ня трэба забывацца, што 'другі дагавор пра нэўтральнасьць' – гэта між Савецкім Саюзам і Японіяй з красавіка 1941 году – забясьпечыў Японіі бясьпечнае заплечча тады, калі ўрад Тоё рыхтаваўся й рабіў пляны для атакі на Пэрл Гарбор".

Гэтулькі выдатны Амэрыканец. Можна было-б і шырэй згадаць як Сталін памагаў свайму хаўрусьніку Гітлеру на працягу амаль двух гадоў, калі той палажыў Заходнюю Эўропу на лапаткі. Найлепшыя сыны й дочкі беларускага народу ў цялятніках ехалі на Сібір а наша дабро, зрабаванае Масквой, плыло на помач "саюзнай Вялiканямеччыне".

Сяньня маскоўскія гэбэльсы дагарлапаніліся да таго, што перамогу Другой сусьветнай вайны прыпісваюць сабе, а іншым – другарадную ролю. І маладое пакаленьне ня ведае. Таму нашым абавязкам ёсьць прыгадваць, як было, хто й каму памагаў, хто ізь кім "саюзьнічаў" ды хто й дзе змагаўся. І прыгадваць мы заўсёды будзем. Гэта наш абавязак. Каб маскоўскім гэбэльсам не ўдалося збаламуціць новыя пакаленьні. Наш народ і ўсе народы павінны ведаць і памятаць запраўдных злачынцаў!

*К. Акула*

## CANADA'S ETHNIC GROUPS AND CANADIAN FOREIGN POLICY

Canada's foreign policy and what impact Canadian ethnic groups have on its formation was the subject of all-day workshop at University College in Toronto on June 25, 1985. It was organized by prestigious Canadian Institute of Intamational Affairs. Representatives of 15 ethnic groups, some academics and Institute officials attended.

Representatives of East European groups – Baltics, Byelorussians, Poles and Ukrainians – expressed their dissatisfaction with the direction of Canada's present foreign policy in relation to the Soviet Union. Like in Trudeau era, Ottawa is still 'selling the rope' to the Gulag masters, whose declared aim is to bury us. Ottawa neglects to support human, national, cultural and religious rights of captive people and nations under Moscow colonial oppression.

The following statement of Mr K. Akula, representing Byelorussian Canadian Alliance and Byelorussian community, read at the beginning of the morning session of the conference, characterized the general tone and thrust of the opinions expressed on Canadian foreign policy versus Moscow:

### Statement

Canadian community of Byelorussian origin maintains an acute sense of awareness of Canada's foreign policy in relation to the Soviet Union for the obvious reason: our former homeland, Byelorussia, which was free and independent in 1918-19, was overran by Moscow and is presently the Soviet colony. Byelorussian people have repeatedly demonstrated their will and fought for their right to live in freedom; moreover, they have never ceased their resistance to Moscow communist colonial oppression.

We, Canadians of Byelorussian origin, cannot remain impartial to the abuses of human, national, cultural or religious rights practiced by Moscow colonial administration in Byelorussia, and for this reason we rather negatively react to what we call a short-sighted policy of accommodation and appeasement our government pursues in its relations with what American President Reagan called an 'empire of evil'.

The Soviet Union is not a state like others, but a mighty power built on a doctrine of hate and mass-murder, and terror, trying to conquer the world. It is, in our opinion, a mistake to look at it as a potentially rich trading partner and a huge consummers market, and to overlook the fact that it has a program and a timetable to capture and destroy remaining free democracies. Canada, you may be sure, is high on the Moscow hit list of primary targets. Moscow is a threat to our security, the major obstacle to world peace and disarmament.

Sometimes one cannot help but wonder at naivette and lack of guts of our politicians. Way back our then Prime Minister Trudeau has signed the so-called friendship protocol with the Soviet government. Not so long ago a number of Canadians have been murdered by the Soviets on Korean airliner. Have the Soviets compensated the victims' relatives? Have they admitted their mistake and apologized? No. So why did not Malroney government cancel that protocol of friendship? If the murderous gang in the Kremlin are your friends, who needs the enemies?

One must deplore the attitude of our politicians allowing Gulag masters and their allies to exclude our media from the recent conference on human rights (Helsinki accords) in Ottawa. As a host country, Canada should have stood high and tall and told the bullies where they can go.

Our External Affairs Minister's Clark white (or is it green?) paper on foreign policy shows that the man has no new ideas, except on trade. The Soviet problem and the captive nations are not even mentioned.

Canada is in a position to support the struggle of captive nations for their human and national rights, thus preserving peace and promoting freedom. For that reason Canada's foreign policy and particularly relations with the captive nations of East and Central Europe and Soviet Asia should be thoroughly reexamined and the policy of 'selling the rope' - to use Lenin's words, – and accommodation and appeasement to Moscow should be corrected.




*"Шчасьлівых угодкаў, таварышы. Цяпер можаце ўжо пагасіць сьвечкі."*

# АЛЕСЬ ГАРУН

## У 65-я ўгодкі сьмерці



Алесь Гарун

Дваццатага ліпеня сёлета мінула 65 год ад сьмерці выдатнага беларускага паэта Алеся Гаруна. У сваей кнізе "Гісторыя Беларускае літаратуры", выдадзенай у 1920 г., Максім Гарэцкі гэтак характарызуе паэзію Алеся Гаруна: "У далікатнай засмучонасьці настрою, у шчырасьці пачуцьця й трагічнасьці думак – галоўная цэннасьць паэзіі Гаруна. На першым пляне ў яго заўсёды стаіць нязвычайная, бязьмерная любоў да бацькаўшчыны. Песьні Гаруна зьясьняюць думку, што няма нацыянальнага адраджэньня без сацыяльнага, а сацыяльны дабрабыт нічога ня варты бяз волі нацыі. Тую думку ён навет ня выказвае словамі, яна неяк сама чуецца зь яго плаканьня, бо гэтая думка – адзначае Гарэцкі – частка яго душы. Ягоныя адраджэнскія абразы і жаданьні, можна сказаць, агульна-нашаніўскія, але ніводзін нашанівец не прамаўляе з такой вялікай шчырасьцяй, балючасьцяй і праўдзівасьцяй пачуцьця, як гэта робіць Гарун".

Між беларускіх паэтаў нашаніўскае пары Алесь Гарун, паводля сваей ролі і значэньня ў ёй, належыць да найбольш характэрнае групы, якую, апрача яго самога, тварылі Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч, ды як часам свае творчасьці, гэтак і ейным характарам стаіць найбліжэй да апошняга. Ягоная творчасьць, з аднаго боку, вызначаецца глыбокім беларускім патрыятызмам, а з другога – разьвівае і філязафічныя праблемы. У адрозьненьні ад высокакультурнай мастацкай прэцызыйнасьці вершаў Багдановіча, вершы Алеся Гаруна вызначаюцца прастатою, але ня прымітывізмам – яны маюць няштодзённуб мастацкую сьпеласьць. Умовы шматгадовага выгнаньня наклалі таксама выразны сьлед на вершы Алеся Гаруна, якія вызначаюцца мінорным сумам і балючай тугою за родным краем.

Алесь Гарун (запраўднае прозьвішча Крушынскі), нарадзіўся 11-га сакавіка, 1887 г. у Менску ў сям'і рамесьніка. Таму, што сам з рабочай сям'і, Алесь Гарун (псэўданімы: Жывіца, Сумны, Савель), амаль усё жыцьцё і сам быў работнікам. Скончыўшы ў 1902 г. рамесьніцкую школу, ён працаваў у сталярных майстэрнях і на мэблявай фабрыцы ў Менску. З маладых гадоў ён далучыўся да работніцкага рэвалюцыйнага руху і ўжо ў 1904 годзе ўступіў у партыю эсэраў максымалістаў. За антыўрадавую дзейнасьць у 1907 годзе Алесь Гарун быў арыштаваны царскімі ўладамі, а ў 1908 годзе засуджаны на катаргу, якая была потым замененая на высылку ў Іркуцкую губэрню. Яе Алесь Гарун адбываў у розных мясцовасьцях Сібіры: працаваў на баржы на Лене, потым на залатых капальнях у Бадайбо і адно ў 1917 годзе, пясьля дзевяці гадоў разлукі з родным краем, вярнуўся ў Менск, але з моцна пашкоджаным здароўем.

Ня гледзячы на гэта, паэт адразу ўключыўся ў беларускую нацыянальную дзейнасьць. Гэта былі бурныя і плённыя падзеямі часы арганізаваньня беларускае дзяржаўнасьці і Алесь Гарун быў адным з найбольш актыўных дзеячоў у гэнай працы. Ён бярэ ўдзел ва ўсерасейскім беларускім зьезьдзе ўцекачоў у Маскве, у зьезьдзе народаў Расеі ў Кіеве, працуе ў розных арганізацыях і ўстановах у Менску, кіруе палітычным адзьдзелам Вялікай Беларускай Рады, арганізуе беларускіх сялян. На Першым Усебеларускім Кангрэсе ў Менску, які адбыўся ў канцы 1917 году, Алесь Гарун быў памочнікам старшыні Зьезду. Ен таксама заняты журналістычнай дзейнасьцю: рэдагуе газэту "Вольны Шлях" і адначасна супрацоўнічае з газэтай "Вольная Беларусь". Калі ў 1918 годзе тварыліся ўзброеныя сілы Беларускай Народнай Рэспублікі, Алесь Гарун быў адным зь іхных дзейных арганізатараў. Памёр, як мы сказалі, у 1920 годзе ў Кракаве.

Друкавацца Алесь Гарун пачаў з 1908 году. Як выглядае, найстарэйшым з друкаваных вершаў Гаруна быў верш, які пачынаецца радкамі "Мілая, родная старонка-маці", зьмешчаны ў газэце "Наша Ніва".

Мілая, родная старонка-маці!
Моцна цябе я і шчыра люблю, –
Бедныя ніўкі твае, сенажаці
І нешчасьлівую долю тваю.

Горам, матуля, цяпер ты замучана,
Стогнам спавіта у сець з ланцугоў,
Рукі і ногі да слупа прыкручаны, –
Ціха наругу ты зносіш, бяз слоў.

Толькі-ж уцешся, матуля каханая!
Слуп твой патроху пачаў падгніваць, –
Прыйдзе к нам воля сьвятая, чаканая,
Сець з ланцугоў як пачнём разрываць.

Нам невядома, ці гэты верш Алеся Гаруна быў згаданы ў першым крытычным аглядзе нашаніўскае паэзіі за 1909 год (выдрукаваны ў "Нашай Ніве" за 1910 год і напісаны Сяргеем Палуянам пад псэўданімам С. Ясяновіч), але ў першым крытычным аглядзе гэтае паэзіі, зробленым Максімам Багдановічам у артыкуле "Глыбы й слаі. Агляд беларускай краснай пісьменнасьці 1910 году", Гарун ужо называецца на першым месцы сярод "даўных знаёмых", аднак безь якое-небудзь ацэны. Затое ў наступным Багдановічавым аглядзе — "За тры гады. Агляд беларускай краснай пісьменнасьці 1911-1913 гадоў", даецца ўжо вельмі высокая ацэнка Гаруна, якая дасюль застаецца як найбольш апраўданай:

"З паэтаў "Нашай Нівы" — пісаў Багдановіч, — назавём перш за ўсё Алеся Гаруна, ад каторага наша пісьменнасьць можа шмат чаго спадзявацца. Лёгкасьць і мілазычнасьць вершу, руплівая шліфоўка яго, новае і вельмі пекнае шчэпліваньне рыфмаў,— усё гэта дужа аздабляе яго паэзію. У дзе-якіх творах, — працягваў Максім Багдановіч, — спатыкаецца сіла і сьціснутасьць мовы. Галоўнае-ж тое, што пры ўсім гэтым Алесь Гарун ні да каго іншага падобны, што ён не зрабіўся нічыім 'падгалоскам'. Гэта зарука, што нашы надзеі на яго талент ня пойдуць на марна".

Тую самую высокую ацэнку Алеся Гаруна Багдановіч паўтарыў у асноўным у сваім нарысе "Белорусское возрождение", напісаным для азнаямленьня чужынцаў зь беларускім адраджэньнем і выданым у 1914 годзе асобнай кніжкай парасейску.

Здаецца, што ўсе Гаруновы вершы, зьмешчаныя ў "Нашай Ніве", што выклікалі гэткую Багдановічаву ацэнку, увайшлі пасьля ў "Матчын Дар", адзіны зборнік ягоных вершаў, які быў выдадзены ў Менску ў 1918 годзе, затым перавыдадзены, таксама ў Менску, у 1929 годзе. 33 гады пазьней, у 1962 годзе, беларускае эміграцыйнае выдавецтва "Бацькаўшчына" ў Мюнхэне выдала творы Алеся Гаруна ў пашыраным зборніку "Матчын Дар" пад рэдакцыяй беларускіх літаратурных крытыкаў Антона Адамовіча й Станіслава Станкевіча з адмысловым уступам пра жыцьцё й творчасьць паэта.

"Матчын Дар" — фактычны поўны збор Гаруновых твораў нашаніўскае пары, так высока ацэненых Максімам Багдановічам і яшчэ вышэй узьнятых у сваей цэннасьці пазьнейшым аўтарскім адрэдагаваньнем і адшліфаваньнем, займае ня толькі выключнае месца ў творчай спадчыне паэта, але й вельмі выключнае месца ў цэлай гісторыі нашага літаратурнага працэсу.

Месца гэтае засьведчанае тымі водгукамі-рэцэнзіямі, што адразу-ж зьявіліся ўва ўсіх ворганах тагачаснага беларускага друку — у менскай "Вольнай Беларусі", у віленскім "Гомане" й петраградзкім "Чырвоным Шляху". Антон Луцкевіч, ён-жа Навіна, у сваёй рэцэнзіі, зьмешчанай у "Гомане" 23.7.1918 г. пісаў:

**"Паэзія Алеся Гаруна ў гэты час, калі ўсе сілы народу трэба напружыць дзеля будаваньня свае вольнае і незалежнае Бацькаўшчыны, робіць прыемнае ўражаньне сваей сьвежасьцяй, сілай, размахам. Тут няма месца для енкаў і нараканьняў, якія так любяць сучасныя яму беларускія паэты — асабліва пачынаючыя. Новай, жывой струёй адаб'юцца ў сэрцах Беларусаў** радкі вершаў Гаруна, каторы, хоць і шмат гараваў у сваім жыцьці, ды ня траціў гарту душы, а наадварот, у муках вырастаў і гартаваўся, каб пасьля ў творчай працы аддаць Маці-Беларусі ўсе свае сілы. А сіла любові да свайго роднага абвявае ўсё гэта асаблівым чарам".

Ацэньваючы творы "Матчынага Дару" з мастацкага боку, рэцэнзэнты аднагодна выказваліся ў тэй самай роўніцы, што й Максім Багдановіч раней у "Нашай Ніве". Гэтак Язэп Лёсік пісаў у "Вольнай Беларусі": "Верш яго звонкі й чысты, як крыштал. Кажнае слова вершу займае сваё месца, і ўсе творы яго напісаныя так, што ў іх, дапраўды, словам цесна, а думкам прасторна".

Цытаваны раней Антон Луцкевіч-Навіна адразу-ж назваў "Матчын Дар" "цэнным укладам у нашу красную літаратуру", дадаўшы пасьля што ў ягонага аўтара "жывая, абразовая мова, верш зычны, гарманійны, форма добра выдзержана".

Пазытыўную ацэнку творчасьці Алеся Гаруна дала і "Кароткая Энцыкляпэдыя Беларускай ССР", паводля якой пераважна лірычныя вершы Алеся Гаруна вызначаюцца мэлядычнасьцю, мастацкай дасканаласьцю, багацьцем рытміка-інтанацыйнага ладу".

На працягу 20-х гадоў, калі ў савецкай Беларусі яшчэ існавалі шырокія магчымасьці разьвіцьця беларускае нацыянальнае культуры, творы Алеся Гаруна перавыдаваліся і ўсебакова дасьледваліся беларускай літаратураведнай і літаратурнай крытыкай і выклікалі шчырае захапленьне й высокую ацэнку. Але калі з канцом 20-х — пачаткам 30-х гадоў пачаўся бальшавіцкі наступ супраць беларускай нацыянальнай культуры, вядомы пад назовам змаганьня з нацдэмаўшчынай, Алесь Гарун адным зь першых быў выкляты, як "буржуазны нацыяналісты" і "рэакцыянер" і поўнасьцяй быў выкрэсьлены зь гісторыі беларускай літаратуры. Калі-ж у сувязі з т.зв. пасьлясталінскай "адлігай" у цэлым Савецкім Саюзе пачалася ў 1956-57 гадох частковая рэгабілітацыя раней забароненых пісьменьнікаў, дык Алесь Гарун усё-ж ня трапіў у лік "рэгабілітаваных". Зробленая ў канцы 1956 году Міхасём Ларчанкам спроба дамагчыся рэгабілітацыі і Алеся Гаруна, скончылася была адно вялікімі няпрыемнасьцямі для самога Ларчанкі. Ня мелі посьпеху й пазьнейшыя спробы вярнуць Алеся Гаруна беларускай літаратуры.

На чацьвертым пленуме ўправы Саюзу Пісьменьнікаў БССР, які адбыўся ў студзені 1962 году, Кандрат Крапіва пастараўся канчаткова загнаць асінавы кол у магілу гэтага паэта. У сваім выступленьні на пленуме Крапіва сказаў даслоўна наступнае: **"Што-ж датычыць Алеся Гаруна, то ня трэба забывацца, што ён па сваёй партыйнай прыналежнасьці зьяўляўся эсэрам. Ён актыўна змагаўся супраць савецкай улады, быў адным з арганізатараў на Беларусі белай арміі, якая існавала для таго, каб змагацца супраць чырвонай арміі".**

**Пасьля падобных абвінавачаньняў, здавалася, што ня было ніякай надзеі, каб Алесь Гарун у Савецкай Беларусі быў вернуты беларускай літаратуры, бо цэнзурная забарона была біяграфічнага характару: Алесь Гарун быў актыўным удзельнікам фармаваньня беларускага нацыянальнага войска, актыўным дзеячом Беларускае Народнае Рэспублікі.**

Але ў пазьнейшых літаратуразедных працах і ў 2-м томе "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры" 1969 году выданьня літаратурная спадчына Алеся Гаруна ацэньваецца ўжо даволі высока і ў пазытыўным сэньсе. У 12-цітомнай "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі" ён акрэсьліваецца яшчэ як "паэт нацыяналістычнага кірунку", які быў "зьвязаны з буржуазна-нацыяналістычнымі коламі". Аднак пасьля зьяўленьня ў тыднёвіку "Літаратура і Мастацтва" ў 1981 г. артыкулу Ўладзімера Казьбярука "У бурлівым віры", у "Кароткай Энцыкляпэдыі Беларускай ССР" ярлык гэты ўжо быў адкінуты, што дазваляе мяркаваць, што будзе зроблена ўсё, каб былі выдадзеныя і ўсе творы Алеся Гаруна. Добрай нагодай для гэтага будзе соты юбілей паэта, які прыпадае на 1987 год.

*Я. Б.*

## БЕЛАРУСКІ МАРШ

Вецер сядравы пранёсься над борам,
Смагаю жыцьця абвеяў лісты.
«Слухайце ўважна, людзі пакоры!
Йдзе вызваленьне, ўставайце, браты!»

Разам, наперад, шлях працярэбім
Простым людзём да людзкога жыцьця!
І Беларусь-Маці долю агледзіць,
Устане, як Лазар, з руін, з забыцьця.

Сьціха пачалі шаптацца вяршыні,
Іхну гаворку пачуў увесь лес,
І загрымелі мільлёны галінаў:
«Годзе ўжо зьдзеку! Народ уваскрэс!
Разам, наперад...

З заходу, ўсходу на нашыя шыі
Селі б'ючыся два хіжых крукі,
Каб змацавацца, кроў нашу пілі,
Гэтак заснуў наш народ на вякі.
Разам, наперад...

Сон горш за сьмерць! Ірвуць цела жывое,
Дзеляць на часткі суседзі-зьвяры.
Вырвалі сьмехам і сэрца з душою,
Суд рассудзілі: памёр без пары.
Разам, наперад...

Толькі-ж ня зьнішчыць дух наш народны!
Вецер на крыльле яго падхапіў,
Стаў ён зьяўляцца тады сыном родным,
Сон іх будзіць, каб усталі, ішлі.
Разам, наперад...

Тры зыркіх зоркі у цёмную поўнач
У будучыню нам сьцежку ясьняць,
Завуцца-ж: воля, брацтва і роўнасьць,
Будзем крывёй іх сваёй здабываць.
Разам, наперад...

Тых, што пагінулі ў бойцы за праўду,
Тых, што вякуюць у турмах гнілых,
Усіх памятайма, пакуль дамо рады,
Звольнім старонку, памсьцімся за ўсіх.
Разам, наперад...»

1917

## У 325-я ЎГОДКІ БІТВЫ ПАД ПАЛОНКАЙ

У І-ым томе "Гісторыі Беларускай ССР", выдадзеным у 1972 г., пра гэтую бітву сказана наступна (цытуем): "Хаванскі, баючыся быць адрэзаным ад Расіі, адышоў спад Брэста ў раён Ляхавіч. Войскі Рэчы Паспалітай пад камандаваньнем Сапегі, Чарнецкага, Палубінскага, Кміціца, перайшлі ў наступленьне і 18-га чэрвеня (паводля старога стылю) нанесьлі Хаванскаму паражэньне. Кінуўшы абоз, Хаванскі з рэшткамі свайго войска адступіў да Полацка".

Вестка гэтая паўтарецца ў артыкуле пра Хаванскага, які, дарэчы, паходзіў з роду нашчадкаў пінскага князя Нарымунта Гедымінавіча, зьмешчаным у 11-ым томе "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі", выдадзенай у 1974 г. Дата бітвы не падаецца, аднак, ані ў "Важнейшых датах гісторыі Беларусі", зьмешчаных у тым-жа 1-ым томе "Гісторыі Беларускай ССР", ані ў "Храналёгіі гісторыі Беларусі", выданай у сэрыі "Энцыкляпэдычная бібліятэчка 'Беларусь'" выдавецтвам "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі" ў 1982 годзе. Не згадваецца таксама ні словам бітва пад Палонкай і ў артыкуле пра вёску Палонку – цяпер цэнтар сальсавету і саўгасу "Палонка", што ляжыць 20 км. назахад ад Баранавічаў. Затое ўспамінаецца помнік на брацкай магіле 50-х савецкіх воінаў так званай "Айчыннай вайны".

Робіцца гэта, бязумоўна, ня з прычыны нядбайства ці недагляду аўтараў. Не! Справа ў чымсьці іншым, а менавіта, у тэндэнцыйным стаўленьні афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі да мінуўшчыны беларускага народу, у ейных канцэпцыях пра палітычныя, сацыяльныя, рэлігійныя, культурныя і іншыя працэсы, што адбываліся ў Беларусі на працягу ўсяе ейнае гісторыі. Інакш кажучы, справа ў выкрыўляньні і хвальшаваньні гістарычнай праўды адносна Беларусі.

Калі-б пад Палонкай перамаглі не хаўрусныя войскі Рэчы Паспалітай, але армія маскоўская, гэта падзея была-б належна адзначаная і ў выданьні "Храналёгія гісторыі Беларусі", і ў артыкуле пра Палонку ў Энцыкляпэдыі. У сучаснай Палонцы напэўна актыўна дзейнічалі-б сьледапыты, існаваў-бы, магчыма, і ваенна-гістарычны музэй, у якім наведвальнікі маглі-б аглядаць экспанаты, зьвязаныя з так званай "доблесьцю рускіх воінаў" і перавагай "рускай зброі". Перамаглі аднак войскі пад камандай гэтмана вялікага літоўскага Паўлы Сапегі, падмацаваныя польскімі адзьдзеламі. Таму

і ігнараваньне гэтае бітвы ў календарох і храналягічных даведніках гісторыі Беларусі.

Бітва пад Палонкай ня была бітвай, якую можна было-б назваць эпахіяльнай. Перамога нашых войскаў таксама ня была нейкай рашаючай перамогай. Гэта была адна із шматлікіх бітваў падчас 13-гадовай вайны Рэчы Паспалітай, складовай часткай якой была наша дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае, з Маскоўшчынай. Але перамога пры Палонцы была ў пэўным сэнсе пераломным момантам у гэтай зацяжной вайне.

Як вядома, у савецкай гістарычнай літаратуры вайна гэтая называецца "руска-польскай вайной 1654—1667 гадоў", якая была быццам адначасна і так званай "вызваленчай барацьбой беларускіх народных масаў", змаганьнем беларускага народу за так званае "ўзьяднаньне беларускага народу з Расеяй".

Што гэтыя цьверджаньні савецкай гістарычнай навукі беспадстаўныя, тэндэнцыйныя і антынавуковыя пераканаўча паказаў Паўлюк Залужны ў сваіх артыкулах з сэрыі, прысьвечанай пытаньню дэмаграфічнага крызісу ў Беларусі ў другой палавіне 17-га ст., якраз выкліканага гэтай вайной (БРРС, 1985). Апіраючыся на гістарычныя крыніцы й на працы аб'ектыўных навукоўцаў, у тым ліку й навукоўцаў савецкіх, ён паказаў, што вайна гэна, распачатая ў травені 1654 году маскоўскім царом Аляксеем Міхайлавічам і якая трывала да 1667 году й закончылася падпісаньнем Андрусаўскага пера-мір'я, была вынікам экспансіўнае палітыкі Маскоўшчыны ў дачыненьні да Беларусі.

Вайна 1654—1667 гадоў спрычыніла Вялікаму Княству Літоўскаму вялізарныя эканамічныя й людзкія страты. Яна зруйнавала гарады, спаліла вёскі, маёнткі шляхты й магнатаў, вуніяцкага й каталіцкага духавенства. У выніку вайны ВКЛ страціла 2 мільёны 200 тысяч насельніцтва, або амаль палову свайго перадваеннага жыхарства. Да гэтых стратаў, бясспрэчна, трэба дадаць страты, спрычыненыя казацкімі набегамі на тэрыторыю Беларусі й зьвязанымі з гэнымі набегамі сялянскімі хваляваньнямі, якія пачаліся яшчэ ў 1648 г. Сюды трэба дадаць таксама вялікія страты на палях бітваў або падчас штурмаў гарадоў.

Няўхільнымі спадарожнікамі гэтых войнаў і спусташэньняў былі неўраджаі й галадоўкі, якія ў сваю чаргу выклікалі эпідэміі сыпнога тыфу. Усё гэта вяло да абязьлюдненьня краіны. Да гэткага абязьлюдненьня спрычыняліся яшчэ паланеньне й масавы вываз у Расею беларускіх сялян, гараджанаў і шляхты.

Наколькі наш край быў спустошаны й абязьлюднены, сьветчаць апісаньні сытуацыі ў ваяводзтвах і паветах ВКЛ, зробленыя ў 1661 г., год пасьля бітвы пад Палонкай, а таксама пастановы адносна некаторых беларускіх гарадоў агульнага Варшаўскага сойму які таксама адбыўся ў 1661 г. Вайна далёка ня была яшчэ закончаная, а паводля апісаньняў, напрыклад, Ашмянскі, Горадзенскі, Слонімскі, Пінскі, Браслаўскі і Аршанскі паветы, а таксама ўвогуле Берасьцейскае, Менскае і Мсьціслаўскае ваяводзтвы былі "дашчэнту зруйнаваныя". У руінах ляжалі таксама гэткія гарады як Берасьце, Пінск, Горадня, Трокі, Ашмяны, Браслаў, Ляхавічы, Нясьвіж, Менск, Ворша, Крычаў, Шклоў і іншыя.

З больш дакладных вестак мы даведваемся, што, напрыклад, у Менску або Воршы ўцалела толькі каля сотні жыхароў. Амаль абязьлюдне́ў таксама й Віцебск, у якім, як і ў Менску, перад вайной налічвалася больш дзесяці тысяч жыхароў. Таму гаварыць пра "барацьбу беларускага народу за ўзьяднаньне з Расеяй", як гэта робяць некаторыя савецкія аўтары, гэта — зьдзекавацца над гістарычнай праўдай.

Раней мы адзначылі, што перамога нашых войскаў у бітве пад Палонкай была ў пэўным сэньсе пераломным момантам у вайне 1654—1667 гадоў паміж Рэчай Паспалітай і Маскоўшчынай. І запраўды. Бітва гэтая належыць да трэцяй фазы ваенных дзеяньняў у гэтай вайне, якая пачалася ад восені 1658 году. Тады якраз скончылася двухгадовае Віленскае замірэньне, а на Украіне новы казацкі гэтман Іван Выгоўскі быў здрадзіў Расеі й перайшоў на бок Рэчы Паспалітай. Ад восені 1658 году пачала здраджваць Маскоўшчыне й шляхта некаторых беларускіх паветаў, якая раней прысягнула на вернасьць цару Аляксею Міхайлавічу.

Праўда, вызваленьне Беларусі ад маскоўскага акупанта пачалося яшчэ вясною 1658 году аблогай войскамі ВКЛ Горадні. У кастрычніку-ж вялікі гэтман Павал Сапега й польны гэтман Гансеўскі, із сваімі войскамі, спрабавалі авалодаць Вільняй, у якой знаходзіўся моцны расейскі гарнізон і сюды была таксама сьцягнутая адна з маскоўскіх арміяў, якой камандаваў князь Юры Даўгарукі. Адначасова і на ўскраіне Беларусі — у раёнах Старога Быхава, Магілёва, Воршы, Мсьціслава, Рослаўля, Крычава й Чавусаў — таксама распачаліся ваенныя дзеяньні.

Аднак у бітвах першай палавіны 1659 году расейскія войскі захапілі некаторыя з гэтых гарадоў. Чавусы знарок былі зруйнаваныя дашчэнту. У травені пачалася аблога Старога Быхава. Апроч таго, у жнівені 1659 г. на Украіне расейскія арміі разьбілі войска казацкага гэтмана Івана Выгоўскага і тут новым гэтманам стаў Юры Хмяльніцкі — сын Багдана Хмяльніцкага, што змушаны быў падпісаць ранейшыя ўмовы супрацоўніцтва Украіны з Расеяй.

У гэткай новай сытуацыі пры канцы 1659 году расейскія войскі пачалі актывізаваць сваю дзейнасьць таксама на захадзе Беларусі. Сюды была накіраваная вялікая расейская армія пад камандай згаданага ў пачатку Івана Хаванскага і ў студзені 1660 году ён навет здабыў Берасьце.

Але вясной 1660 году паміж Рэчай Паспалітай і Швэцыяй была падпісаная мірная ўмова і з Польшчы ў ВКЛ была накіраваная ваенная дапамога на чале з ваяводам Стафанам Чарнэцкім. Князь Іван Хаванскі вымушаны быў пакінуць Берасьце й адыйсьці із сваей арміяй пад Ляхавічы, дзе ў красавіку да яго далучылася войска, узначаленае былым магілёўскім ваяводам Сямёнам Зьмеевым.

Тут пад Палонкай, дакладна 325 год назад, 28-га чырвеня 1660 г. і дайшло да вялікай і крывавай бітвы, у выніку якой войскі вялікага гэтмана Паўла Сапегі й ваяводы Стэфана Чарнэцкага поўнасьцю разьбілі армію

князя Хаванскага й захапілі ўвесь расейскі абоз. Князь Хаванскі, з рэштай свайго войска, зьбег у Полацак, а Сапега й Чарнэцкі рушылі на ўсход пад Барысаў і Магілёў і, пераправіўшыся пераз Дняпро, здабылі Мсьціслаў і Крычаў.

Супраць іх із Смаленску выступіла маскоўская армія, якой камандаваў князь Юры Даўгарукі, а з Полацку — папоўненае войска князя Івана Хаванскага. Але ў кастрычніку 1660 г. гэтае войска князя Хаванскага было зноў разьбітае пад Чарэяй каля Лукомля. Апроч таго ў тым-жа кастрычніку на Ўкраіне скапітулявала 35-тысячная расейска-казацкая армія ваяводы Васіля Шарамецьева й казацкі гэтман Юры Хмяльніцкі перайшоў на бок Рэчы Паспалітай.

Такія падзеі дазволілі гэтману Паўлу Сапегу ў сакавіку 1661 году ваенныя дзеяньні перанесьці ў Полацкае ваяводзтва на поўнач ад Дзьвіны. А яшчэ ў пачатку лютага ўспыхнула паўстаньне гараджанаў у Магілёве, якія зьнішчылі расейскі гарнізон, узялі ў палон двух расейскіх ваяводаў і горад передалі войску ВКЛ. У канцы кастрычніка 1661 г. пад Кушлікамі ля Дзьвінску зноў была разьбітая найбольшая групоўка расейскіх войскаў, якімі даводзіў Іван Хаванскі і ён быў змушаны адступіць у Вялікія Лукі. Пасьля гэтае перамогі над войскам Хаванскага на пачатку сьнежня 1661 году, нарэшце, была вызваленая таксама й сталіца ВКЛ Вільня.

Ваенныя дзеяньні працягваліся і ў наступных гадох, калі былі здабытыя і іншыя гарады Беларусі. Аднак зацяжная крывавая вайна стаміла абодвух праціўнікаў і таму ўпачатку 1667 г. у вёсцы Андрусава ля Мсьціслава было падпісанае замірэньне на 13 з паловінай гадоў. Праўда, яно не задаваляла ВКЛ, бо яно траціла ня толькі Смаленскае ваяводзтва, але да Расеі часова адыходзілі Себежскі, Невельскі й Вяліскі паветы. Але калі-б ня перамога пад Палонкай, магчыма ня было-б і Андрусаўскага перамір'я. Яно адкрыла шлях да вызваленьня Беларусі ад маскоўскага акупанта і ў гэтым ейнае гістарычнае значэньне.

*Язэп Барэйка*

**************************************************

АМЭРЫКАНСКІ СЭНАТ АДКІДАЕ ВЫНІКІ ЯЛТЫ

Сорак год назад прэзыдэнт ЗША Франклін Рузвэлт і прэм'ер-міністар Вялікабрытаніі Вінстан Чэрчыл наладзілі сустрэчу із Сталінам у Ялце, каб пастанавіць пра будучыню Эўропы. Падпісаная ўмова гарантавала, што ня гледзячы на акупацыю Ўсходняй Эўропы Чырвонай Арміяй, там маюць адбыцца вольныя выбары. Саветы зглумілі тую ўмову, правёўшы хвальшывыя выбары на маскоўскі лад. Яны выкарысталі ялтанскую ўмову, каб запанаваць, зьняволіць і тэрарызаваць мільёны людзей.

Сёлета ў чырвені амэрыканскі сэнатар Робэрт Кастэн запрапанаваў рэзалюцыю, якая адкідае "ўсякія наманьні легалізацыі дамінацыі ўсходня-эўрапэйскіх народаў Савецкім Саюзам, згодна ялтанскае ўмовы".

У сваім уступе да прапанаванай рэзалюцыі сэнатар Кастэн сказаў: "Гэткая мера ня ёсьць сродкам, каб замяніць значны эканамічны й палітычны націск на савецкую імпэрыю, але адкіданьне насьледкаў Ялты ёсьць важным сымбалічным актам у такім самым значэньні, як была Праклямацыя Эманцыпацыі (Акт прэзыдэнта Лінкальна 1.1.1863 г., які абвяшчаў свабоду для Неграў ува ўсіх штатах). Так,як некалі Праклямацыя Эманцыпацыі абнадзеіла тых, што цярпелі ў няволі да часу вызваленьня, гэтак і адкіданьне насьледкаў Ялты мае даць надзею народам савецкага блёку".

"Мы павінны даць выразны сыгнал народам цантральнай і ўсходняй Эўропы, што мы не адкінулі іхных надзеяў і асьпірацыяў да лепшага жыцьця".

Адразу-ж пасьля прамовы Кастэна, Рычард Лугар, старшыня санацкага камітэту замежных зносінаў і найстаршы рангам сябра Дэмакратычнай Партыі ў камітэце, падтрымаў рэзалюцыю Кастэна. Таму, што ніхто ня выступаў супраць, рэзалюцыя была апрабаваная поўным сэнатам ЗША.

" Гэта — вялікая перамога для ўсіх паняволеных народаў" — сказаў прадстаўнік *Помосту* Хрыстофар Рак. *Помост*, што базуецца ў Чыкаго, ёсьць сацыяльна-палітычным рухам, які вёў кампанію супраць ялтанскай умовы на працягу двух апошніх гадоў.

"Хоць рэзалюцыя, як такая, не адкідае самой ялтанскай умовы, — сказаў Х. Рак, — яна сур'ёзна разглядае тую ўмову й таму падымае дух волялюбных паняволеных народаў".

Акцыя амэрыканскага сэнату магічна ня зьменіць савецкіх межаў, але гэта сымбалічны крок значнай якасьці. А сымбалі маюць свой ужытак. Цяпер гарантарам савецкае дамінацыі Ўсходняй Эўропы ёсьць толькі савецкія танкі, а не заходнія ўрады.

*Z. Przetakiewicz, Toronto Sun, 19.7.85*

**************************************************

ДОБРЫ ПРЫКЛАД

Сёлета ў нядзелю 4-га жнівеня адбыўся пікнік на маёмасьці нашага "Выдатнага Паляшука" Міколы, што знаходзіцца над возерам Юран у Іпэрваш. Прыехалі нашы вэтэраны й суродзічы з Дэтройту, Лёндану, Таронта. Былі добрыя беларускія аладкі на сьнеданьне, былі малітвы з удзелам Уладыкі Мікалая, быў добры абед, гутаркі й песьні. А дзякуючы людзям, якія мала калі сябе рэклямуюць, а добра працуюць, быў і даход, зь якога на "Зважай" перапала 70 даляраў.

Між Беларусаў на выгнаньні быў некалі закараніўся добры звычай. Мала таго, што на грамадзкіх ці царкоўных сьвятах і зборках, але й на сямейных і прыватных мы зьбіралі сродкі на падтрымку нашага выдавецтва й друку. Цяпер гэта робіцца, але куды радзей. Варта такую добрую традыцыю падтрымліваць і няхай арганізатары згаданага тут пікніку будуць для ўсіх нас напамінам і добрым прыкладам. За іхнюю ахвярнасьць — вялікае дзякуй.

## НА ДЗЕНЬ ПАМІНКАЎ





Сёлета на Дзень Памінкаў (Мэмэрыял Дэй) 27-га травеня сьцяжная варта з адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Брансвіку брала ўдзел у парадзе. Зьверху — Беларусы ў паходзе. Унізе — сьцяжныя лейтананты зьлева направа: В. Дубяга, А. Субота, Я. Азарка, П. Кажура, і сьпераду — камандзер С. Гутырчык. *Здымка А. Дубягі.*

## *ЖЫЦЬЦЁВЫ ШЛЯХ ІНЖ. В. КЛЯЙНОВА*

17-га ліпеня, 1985 г. у Брадфардзе, Англіі, адыйшоў у вечнасьць, у веку 59 гадоў, інж. В. Кляйноў. Пахавінаў даканаў а. прат. Янка Абабурка. Нябожчык пакінуў жонку й асірацію дачку й двух сыноў. Дачка выйшла замуж летась, а сыны мелі жаніцца сёлета, але бацьку наканаваў лёс іншае, абарвалася жыцьцё.

Нябожчык паходзіў з Наваградчыны. Падчас апошняй вайны скончыў Беларускую Наваградзкую Гімназію і калі арганізавалася Школа Камандзераў Беларускай Краёвай Абароны ў Менску, ён уступіў у яе. Па нядоўгім часе, пры адступленьні, у Вільні, падчас бамбардыроўкі, ён быў цяжка паранены, апалены фосфарнай бомбай. Доўгі час праляжаў у шпіталі ў Варшаве, пасьля-ж накіравалі яго ў Італію, дзе трапіў у палон, а адтуль у польскую армію, у якой скончыў афіцэрскую школу з рангай капраля падхаронжага.

Пасьля дэмабілізацыі скончыў Манчэстарскі унівэрсытэт із тытулам інжынера архітэктара і працаваў у будаўлянай фірме. Інж. В. Кляйноў браў актыўны ўдзел у беларускім нацыянальным жыцьці й некалькі кадэнцыяў быў старшынёю мясцовага адзьдзелу ЗБВБ. Палякі даведаліся, што меў ступень у польскай арміі й некалькі разоў запрашалі ў сваю вэтэранскую арганізацыю. Кляйноў адказаў, што ён ёсьць Беларусам і належыць да Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Вялікай Брытаніі. Дзесьці ў 50-х гадох перабраўся ў суседні Брадфард і там актыўна ўдзельнічаў у беларускім нацыянальным жыцьці да апошніх дзён жыцьця.

Бывай, Дарагі Сябра, хай Табе сьняцца гоні роднай Наваградчыны, пра якую Ты мне часта ўспамінаў.

*Манчэстар, 29.7.1985* *М. Стаўпіскі*

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 25-га сакавіка да 21-га жніўеня сёлета атрымана на "Зважай" падпіскі й ахвяры: Я. Б. — 5,00 даляраў, Ананімны — 9,25, др. В.Сянькевіч — 18,00, Ч.Найдзюк — 6,50, П. К. — 10,00, др. В.Мілянцэвіч — 15,76, М. Яськевіч — 1,85, К. Ш-цкі — 3,70, С. Гутырчык (з продажы) — 67,50, А. Міцкевіч — 6,50, Б. Даніловіч — 6,50, Б.Машонскі — 6,50, Л. Стагановіч — 6,50, П. Кажура — 6,50, В. Русак — 6,50, С. Гутырчык — 6,50, з пікніку над Гарыняй ракой (маёмасьць М. Шуста) 3-4 жніўеня, дзякуючы працавітым і гасьцінным яго арганізатарам — 70,00.

*Разам — 183,06 дал. Усім вельмі дзякуем.*

*********

## ПРОСІМ АДГУКНУЦЦА

За два месяцы выйдзе чарговы, саракавы нумар "Зважай". З гэтай нагоды просім чытачоў адгукнуцца: як мага коратка выказацца, што думаеце пра наш часопіс. Дзякуючы Вам, ён ужо існуе больш дзесяці гадоў. Якія матар'ялы хочаце ў ім бачыць? Ці можа з Вас хто мае штосьці цікавае, апрацаванае, каторае было-б варта зьмясьціць? Просім адгукнуцца. *"Зважай".*